УРОКИ ИСТОРИИ

# Зона молчания

## *Светлой памяти Сергея Граховского*



В сентябре минувшего года исполнилось 100 лет со дня рождения замечательного белорусского поэта Сергея Граховского. В интервью газете "Хочацца нешта добрае сказаць людзям..." дочь писателя Татьяна рассказала о жизни родителей, об их доброте к людям, любви к Беларуси. И, к сожалению, только коротко — о трагической судьбе этих дорогих людей, о том, что они испытали во времена сталинского произвола, беззакония и преступлений против собственного народа. Поэтому я хочу продолжить рассказ.

...Сергей Иванович Граховский — одна из жертв тех страшных лет, когда человеческая жизнь ничего не стоила. Он испытал сполна ужасы системы, созданной "отцом народов". О трагических днях, проведенных в лагерях ГУЛАГа, написал в документальных повестях "Такія сінія снягі", "Зона маўчання" и "З воўчым білетам".

Сергей Иванович видел все и все пережил. Он помнил сотни фамилий, имен и лиц своих побратимов по неволе, навсегда оставшихся в вечной мерзлоте. Помнил и садистов-следователей, преступников-судей, надзирателей, лагерных начальников и конвоиров-извергов. Помнил все до мелочей — и поклялся каждым словом, каждой строкой говорить только правду, чтобы ее знали люди и никогда не позволяли обмануть себя новой ложью, новой изощренной дьявольщиной.

Привожу отрывок из воспоминаний С.Граховского в книге "Зона молчания", вышедшей в Москве на русском языке еще в 1991 году и попавшей мне в руки: *"Нас оцепили спереди, сзади и с боков конвоиры в серых шинелях и черных кубанках, они глядели на нас с настороженностью и ненавистью, держа наизготовку длинные винтовки со штыками. Смотрю на них и думаю: что же погнало вас на эту собачью службу? Кто надоумил вас, что мы "враги народа"?.. Может, враги — это те, кто целый год мордовал нас, выбивая правду, чтобы честных людей подвести под "вышку" или загнать на гибель в шахты или непроходимые леса. Какому дьяволу служите, что истово ломали ребра старым коммунистам, что загоняли женщинам в соски отточенные карандаши, что ножками стульев мозжили пальцы ног и месяцами гноили в холодных и темных карцерах?*

*Где же она, правда?"*

И далее: *"Враг рода человеческого руками коммунистов решительно хотел уничтожить, истребить физически большую часть народа в лице лучших его представителей из духовенства, интеллигенции, рабочих и крестьян, а оставшихся превратить в безвольных рабов. Десятки миллионов жизней унесла не война, а власть..."*

Колоссальная машина зверств, убийств, постоянный голод и холод изменяли людей. Вчерашний гуманист становился грабителем и насильником, а тихий обыватель — жестоким мучителем...

Сталин хорошо усвоил в "ленинских университетах": день без террора — опасен, два дня без террора — смерть для власти. Вот основа теории сталинизма, которая, на мой взгляд, и является морально-психологическим нутром палачей, извергов, обслуживающих лагеря ГУЛАГа, и их последователей.

Увы, до сих пор ни в России, ни у нас адекватных юридических, правовых официальных актов, осуждающих преступления большевизма перед народами СССР, ни даже внятной нравственной их оценки так и не было принято. Вот и голосуют российские телезрители за признание одним из "величайших исторических деятелей" всех времен кровавого тирана Сталина... Хотя одна из мировых сатанинских идеологий — фашизм — была осуждена мировым сообществом на Нюрнбергском процессе еще в 1946 году и на сегодняшний день как партия и идеология ни в одной стране мира официально не регистрируется. Но коммунизм, будучи разновидностью фашизма, антихристианской силой, по сей день рядится в личину патриотизма...

Фашизм уничтожал людей разными способами: расстрелами, виселицами, голодом, сжиганием в крематориях. Об этом достаточно хорошо известно. В Советском Союзе в ГУЛАГе не было крематориев. Да и зачем они нужны, когда их заменяли мороз, холод и голод, вечная мерзлота?

По словам С.Граховского, в лагерях имелись так называемые "группы Д", куда скончавшихся заключенных определяли врачи. Эта группа росла с каждым днем, а рабочие бригады редели на глазах. Смерть косила лесорубов проворнее, чем они валили лес... *"Помню, на работу выходило около 600 человек, а через два месяца — только 60... У начальников была одна забота — любой ценой выполнить план и дать приличную сводку. А там прибудет новый этап, выжмут из него все возможное и спишут по группам "Д"..."*

Русская православная церковь все же дала оценку большевистскому тоталитаризму со всей определенностью как преступному. Почему же молчит наша Белорусская православная церковь, до сих пор не осудив те страшные преступления, совершенные большевиками?

По данным комиссии по реабилитации в СССР, которую возглавлял в свое время А.Яковлев, с 1917-го по 1941 год было физически уничтожено почти 130.000 только представителей православного духовенства. К тому же отметим, что сюда не включены те, кто умер в тюрьмах и концлагерях от голода и болезней... Сегодня мы не располагаем данными о жертвах — священнослужителях православной, католической, мусульманской и других конфессий в Беларуси.

Отказаться от своего прошлого, каким бы сложным и подчас трагическим оно ни было, — значит обречь себя на незавидную роль слепца, вынужденного то и дело натыкаться на ошибки и заблуждения, не видя света в конце туннеля.

Давным-давно, тысячелетия назад, была сформулирована величайшая христианская гуманистическая заповедь "Не убий!". И показания свидетелей о преступлениях сталинщины должны использоваться церковью для организации суда над антинародной, чудовищной системой, принесшей народам СССР столько горя, слез, крови и страданий. Этого требует история, этого требуют миллионы невинных жертв, этого требует справедливость!

**Иван ОГОРОДНИК,**
**кандидат технических наук.**

*г.Дзержинск.*

ОТКЛИК

## *Ближе к кормушке*

Добрый день, уважаемая редакция!

Решила написать по поводу статьи "Раздача", опубликованной в "Народной Воле" 14.01.2014 года. На сто процентов согласен с авторами Игорем Морозовым и Светланой Калинкиной. Уважаю вас за вашу объективность, смелость, правдивость. Действительно, не только смешно, но и противно осознавать, как в нашей стране раздают высшие государственные награды. Очевидно, что это делается по принципу — "кто ближе к кормушке"...

**Николай ГАНКЕВИЧ.**

*г.Орша.*

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ...

## *Хто яны — нацыянальныя героі?*

*Напісаў у некалькі дзяржаўных газет лісты з просьбай назваць, хто ў Беларусі нацыянальны герой. Некаторыя рэдакцыі прамаўчалі, а з адной, як яна сабе называе, уплывовай прыйшоў адказ, што ў мінулым героі Беларусі — гэта Т.Касцюшка і К.Каліноўскі, а ў сучасным жыцці — У.Карват, П.Пракаповіч і мітрапаліт Філарэт.*

Я парадаваўся таму, што адносна Т.Касцюшкі, К.Каліноўскага і У.Карвата нашы думкі супадаюць. А вось прозвішчы П.Пракаповіча і Філарэта вызываюць у мяне, мякка кажучы, вялікае здзіўленне і неўразуменне. Усе людзі ў краіне добра ведаюць пра ролю П.Пракаповіча ў грашовай сістэме Беларусі і пра яго "подзвігі" на ніве "ўтрымання" беларускага рубля, якія абярнуліся для людзей стратай уласных зберажэнняў.

Што тычыцца Філарэта, то таксама ёсць пытанні. Няўжо ў Беларусі такі ўздым духоўнага адраджэння, няўжо мы сталі жыць па біблейскіх запаветах Ісуса Хрыста, не крадзём, не забіваем, не блудзім, не падманваем нават на дзяржаўным узроўні, любім адно аднаго, як сябе? Колькі сядзіць у турмах вернікаў? Чаму набажэнства ў беларускіх храмах вядзецца на мове суседняй краіны?

Можа, я чагосьці не ведаю і чытачы "Народнай Волі" альбо чыноўнікі з уладных кабінетаў падкажуць праз газету звесткі, за што, за якія подзвігі П.Пракаповіч і Філарэт сталі Героямі Беларусі?

**М.М.БУЙНІЧ,**
**пенсіянер.**

*Гомель.*

КАРЦІНА ЖЫЦЦЯ

# Пінскія парадоксы

Ёсць такая народная мудрасць: чалавека сустракаюць па адзежцы, а выпраўляюць па розуму. І калі за адзежу для горада прыняць візуальнае афармленне вуліц, будынкаў розных устаноў і гэтак далей, дык палескі горад Пінск выглядае не беларускім, а рускім. Ён мала чым адрозніваецца ад Пскова, Тамбова, Курска... На вуліцах Пінска вельмі мала шыльдаў з беларускімі назвамі вуліц і беларускімі назвамі ўстаноў, рэкламных шчытоў, афіш... А раз адзенне горада не беларускае, то і сам горад гасцямі ўспрымаецца як горад іншай дзяржавы, родная мова якой — руская.

Пінск — адзін з найстаражытнейшых гарадоў сучаснай Беларусі, дзе шмат помнікаў шматвяковай беларускай культуры, гістарычнай спадчыны народа, які тут жыў, будаваў, тварыў. І горад павінен быць беларускім, нацыянальным. Толькі тады, на мой погляд, ён будзе спаўна выхоўваць у маладога пакалення пачуццё патрыятызму і нацыянальную годнасць і гонар. Гэта першы парадокс і нават трагедыя не столькі горада, колькі яго жыхароў.

Здаўна горад Пінск называюць горадам моладзі. У Пінску сем каледжаў і адзін універсітэт, некалькі прафесійных вучылішчаў, амаль два дзясяткі школ і гімназій, а яшчэ ёсць спецшкола і школа-інтэрнат. Тысячы школьнікаў, навучэнцаў і студэнтаў атрымліваюць адукацыю на рускай мове, выхоўваюцца не ў нацыянальных традыцыях Беларусі. У горадзе няма не толькі беларускамоўных школ, але нават класаў і груп! І калі ў Магілёве ёсць хоць адна дзяўчынка, якая вучыцца пабеларуску, то ў Пінску — нікога!

Горад мае права ганарыцца колькасцю навучальна-асветніцкіх устаноў, але ён павінен сумаваць і слёзна плакаць па тым, што ў горадзе знішчаецца ўсё беларускае і нацыянальнае. Гэта трагедыя маладога пакалення беларусаў, у якім гвалтоўна нішчыцца беларускасць, нявечацца псіхалогія, характар, натура.

Гэта парадоксы, якія тычацца не толькі асобнага горада, але і ўсёй краіны. Два трагічныя парадоксы, што апісаны вышэй, цягнуць за сабой больш дробныя парадаксальныя недарэчнасці, якіх можна пазбегнуць, калі мясцовыя ўладныя чыноўнікі хоць нешта зробяць для вырашэння простых пытанняў. Каб не быць галаслоўным, прывяду некалькі канкрэтных фактаў.

У лістападзе бягучага года прагрэсіўная частка беларусаў адзначала 65-гадовы юбілей нашай славутай зямлячкі **Яўгеніі Янішчыц**. З нагоды юбілею я звярнуўся ў райвыканкам і Мерчыцкі сельскі выканкам з прапановай: перайменаваць вуліцу Савецкую ў вуліцу Яўгеніі Янішчыц. Нагадаю, што на гэтай вуліцы стаіць дом, у якім вырасла знакамітая паэтка, на доме ёсць мемарыяльная дошка. Але мясцовыя ўладныя чыноўнікі палічылі, што дзве вуліцы Яўгеніі Янішчыц у адным раёне будзе замнога. Пры гэтым трэба адзначыць, што на тэрыторыі раёна ёсць па некалькі вуліц Калініна, Чапаева, Свярдлова і г.д. Вось так шануюць на Піншчыне таленавітых землякоў, але затое ў пашане ў іх чужынцы, слава якіх сёння пад вялікім пытаннем. Ці ж не парадокс?

У цэнтры Бобрыка, у скверы, стаіць бюст Чапаева, цэнтральная вуліца вёскі носіць яго імя. Хто ж такі Чапаеў для сённяшніх палешукоў? Чыноўнікі талдычаць, што гэта герой грамадзянскай вайны, які загінуў на Урале. Але ці могуць быць героямі братазабойцы? Амаль два дзясяткі гадоў я спрабую пераканаць мясцовых чыноўнікаў, што Чапаеў — не беларускі герой, што ў нас ёсць каго ўшаноўваць. Змянілася тры старшыні сельскага выканкама, і ніводны з іх не ўзяў на сябе смеласць, каб убраць бюст і пераназваць вуліцу. Парадокс!

Ужо амаль год вяду барацьбу за выдзяленне памяшкання для стварэння культурна-асветніцкага цэнтра роднай мовы. Ва ўладных чыноўнікаў ёсць толькі адзін аргумент: за арэнду трэба плаціць. Даказваю, што цэнтр будзе працаваць на грамадскіх пачатках, што ў нас няма ніякіх фінансаў аплачваць арэнду. Круцяць, муцяць, але не хочуць даць памяшканне. Адзін ідэалагічны работнік райвыканкама нават на поўным сур'ёзе запатрабаваў ад мяне паказаць вынікі работы цэнтра. Цэнтра няма, памяшкання для яго работы не даюць, але работу пакажы. Парадокс!

Пры гэтым у вёсцы ёсць цэлы будынак, дзе размешчаны сельская бібліятэка і шашачна-шахматны клуб. У гэтым будынку два пакоі займае раённая служба ЖКГ, дзе аказваюцца рытуальныя паслугі. Побач стаіць будынак сельскага клуба, які практычна заўсёды пусты. Крыху далей — трохпавярховы гмах сярэдняй школы, які разлічаны амаль на 400 месцаў, а школьнікаў крыху больш за сто. Пералічваю варыянты. Усе яны аспрэчваюцца чыноўнікамі. І ўсё з мэтай не даць.

У Пінску друкуецца амаль дзясятак газет. І ўсе яны — рускамоўныя. Мясцовае радыё і тэлебачанне таксама працуе па-руску.

Такія парадаксальна-трагічныя факты-прыклады можна бясконца пералічваць. Можна зрабіць выснову: усё наша жыццё складаецца з трагічных парадоксаў, з праблем, якія тэрмінова трэба вырашаць. Толькі для вырашэння гэтых пытанняў патрэбна добрая воля вышэйшай улады краіны. Гледзячы на тое, што робіцца з роднай мовай, нацыянальнай культурай, міжвольна прыходзіць думка, што ўсё гэта робіцца наўмысна, каб знішчыць беларускую нацыю.

Успамінаю выказванне генерал-губернатара Мураўёва, якога ў народзе празвалі вешальнікам: што не паспеў зрабіць жандарскі штык, тое даробіць руская школа і руская праваслаўная царква. Што тычыцца школы, то яна з гэтым справілася выдатна. Беларускай школы няма. Руская пануе на Беларусі, знішчаючы рэшткі нацыянальнай свядомасці ў маладым пакаленні. Пры панаванні Польшчы ў Беларусі былі, хоць і мала, беларускія школы. Нават у час вайны з фашысцкай Германіяй працавалі беларускія школы. А ў суверэннай і незалежнай Беларусі сёння беларускіх школ практычна няма. І як гэта можна назваць?..

**Уладзімір ГУК,**
***жыхар вёскі Бобрык Пінскага раёна.***

ОТ ДУШИ

## *Наконец-то!*

Прочитала статью Семена Букчина "Зачем нам высокая музыка?" и тоже решила написать в "Народную Волю". Высокая музыка нужна для души. Для настроения, для восполнения энергии. Но в последнее время, увы, классическую музыку нигде нельзя услышать. Ее просто нет.

Концерт, о котором пишет Семен Букчин, я слушала и смотрела по телевизору 7 января, на Рождество Христово, по каналу "Беларусь 3". Это было нечто! Знакомые с юности мелодии, потрясающее исполнение. Вдохновенный воздушный Анисимов словно парил над оркестром. Оксана Волкова, наша белорусская Анна Нетребко, пела, мне кажется, как никогда.

Когда в конце концерта под мелодию Джузеппе Верди из "Травиаты" Александр Анисимов подхватил Оксану Волкову и начал с ней вальсировать, я совершенно обалдела! Вот это высший класс! Мы — не провинциалы, живем в столице, в центре Европы.

Все это я увидела благодаря телевидению, каналу "Беларусь 3". Чувствуется, что там работают высокообразованные, культурные люди. Низкий поклон каналу "Беларусь 3"! Я открыла для себя недавно этот канал, пусть он всегда радует людей хорошей классической музыкой.

**Нина МЕДВЕДЕВА.**

ДЫСКУСІЯ

# Расчалавечванне

Заўсёды, калі чытаю ці чую спагадлівы заклік Вярхоўнага камісара Еўрасаюза Кэтрын Эштан да нашага ўрада аб неабходнасці скасавання смяротнага пакарання, на розум прыходзяць разважанні на гэтую тэму.

Асяроддзе, у якім мы жывём, нагадвае нейкі пітомнік, дзе вырошчваюць непаўнавартаснае грамадства, некаторых пасля нават адлоўліваюць і расстрэльваюць. Калі казаць вобразна, то злачынства — гэта няякасная гародніна, што вырасла на занядбанай глебе ў гаспадара-недарэкі.

Дык давайце ж уважліва паглядзім, ці так ужо вінаватая тая радыска, што не ўрадзіла ў высмяглым адстойніку?

Тут, у варунках, дзе мы нараджаемся і гадуемся, дзейнічае механізм расчалавечвання. Ён просты. З укараненнем чужой культуры ў чалавека забіраюць права глядзець на свет і распазнаваць яго праз свае, нацыянальныя вочы. З адрачэннем ад нацыянальных скарбаў, якія вякамі і тысячагоддзямі адточвалі і ўдасканальвалі чалавека, паніжаюцца ягоныя чалавечыя якасці: атрафіруецца пачуццё патрыятызму, чалавек перастае быць асобай, ператвараецца ў істоту нявызначанага паходжання, годнасць перарастае ў нягоднасць. Спустошаная душа, якая ўжо нічога вартага ў сабе не нясе, пачынае быдлець, пустату запаўняюць абыякавасць, смага спажывы, прыстасаванства, лісліваcць, п'янства. Народ ператвараецца ў масу, або наўпрост у насельніцтва, якое не адчувае адказнасці ні за дзяржаву, ні за будучыню, ні за сябе саміх.

**З павагай —**

**Віктар Максімавіч ФУРМАН.**

*Мінск.*

Сяргей ПРЫЁМКА

### *Афарызм*

*Дзе багацей*
*жыве народ,*
*там у пашане*
*дэмакраты.*
*У басякоў*
*наадварот:*
*відовішчы,*
*сума і краты.*

РЕПЛИКА

# Давайте организуем обратную связь!

*На встрече с редакторами некоторых белорусских СМИ Александр Лукашенко высказался по поводу автомобильного налога, который так спешно был введен в стране, что до сих пор, например, не ясно, как оплатить новый сбор тем водителям, которые прошли техосмотр в прошлом году, а следующий должны проходить в 2015-м.*



Александр Лукашенко категорично заявил: все вырученные средства пойдут на поддержание дорог.

— *Я правительству сказал: если только эти деньги уйдут не на дороги и меня люди потом упрекнут, что мы дыры закрывали, как некоторые пописывают в газетах и на интернет-ресурсах, пеняйте на себя. Отвели отдельный счет — все деньги туда, и все деньги на дороги,* — пояснял в привычном стиле А.Лукашенко.

Я предлагаю также открыть еще и отдельный сайт, куда бы белорусы смогли отправлять сообщения об участках дорог, требующих срочного ремонта, и сопровождать их фотографиями. А дорожники в свою очередь давали бы гражданам ответ на каждое такое сообщение: когда и в какие сроки ремонт будет произведен. А позже предоставляли и отчет о проделанной работе. Потому что отдельный счет — это еще не гарантия, что дороги начнут ремонтировать. В Минске, например, регулярно обновляют асфальт только на одной улице — проспекте Победителей. А вот дорогу на кладбище в Колодищах, например, не один год дорожники обходят стороной. Хотя там на некоторых участках выбоины такие, что диву даешься, как еще покойников до кладбища довозят. А на этом погосте, к слову, каждый день прощаются с 12—15 минчанами, ушедшими в мир иной, десятки человек приезжают навестить могилы близких.

Могу еще один адрес подсказать: поселок Сухорукие. От Минска — 300 метров, на маршруте два городских автобуса. Но доехать туда проблема. Ямы такие, что, если на ходу в такую вскочишь, машина останется без колес. Водители пытались объезжать выбоины по обочине, но и там земля вымылась, появились очень глубокие рытвины. Жители поселка куда только не обращались! Даже минский автопарк возмутился: расходы на амортизацию транспорта страшные. Но за лето и осень (!) в стране не нашлось средств и сил, чтобы отремонтировать дорогу. Сейчас снег ямы слегка "подровнял", но не за горами весна, и жители поселка не без основания опасаются, что дорога просто будет закрыта: ездить по ней станет невозможно. И как тогда добираться до поселка, ездить на работу, возить детей в детские сады и школы?

А вот если появится такой сайт и вся страна и, главное, ее руководители увидят, какие ямы на дорогах за минской кольцевой, так, смотришь, и заделают их. И тогда все жители поселка Сухорукие согласятся, что новый налог — не грабеж народа, а нужное дело.

**Татьяна ЮРЧЕНКО.**

З ПАДСЛУХАНАГА

# На прыёме ў неўрапатолага

Хворы ўзяў у рэгістратуры паліклінікі два талончыкі. Адзін — да неўрапатолага, другі, крыху на пазнейшы час, — да хірурга.

Была летняя спёка, пацыент у шортах, на калене павязка.

Доктар, не падымаючы вачэй:

— З чым прыйшлі?

— Надта моцна баліць галава.

— А чаму ж тады абвязана калена?

Хворы спакойна адказвае:

— З каленам я пасля вас пайду да хірурга. А вы мне парайце якія-небудзь лекі ад галавы.

— Так, я параю, але толькі скажыце, чаму перавязана калена, а не галава?

Хворы пачаў нервавацца.

— Я ж да вас прыйшоў, бо баліць галава! Можаце і лісток непрацаздольнасці выдаць, калі палічыце патрэбным...

— Не хвалюйцеся: і лекі выпішу, і лісток дам. Аднак спачатку хачу ведаць: з якой нагоды павязка на калене, а баліць жа галава?

Хворы прыўзняўся, у яго затрэсліся рукі, ён ледзь не закрычаў:

— Чаго прычапіліся да калена?!. Пра яго я раскажу хірургу. А вы лячыце маю галаву!..

— Сядайце! Чаго ўсхапіліся? — сказаў неўрапатолаг, узяўшы лісткі непрацаздольнасці. — І лекі выпішу, і бальнічны рыхтую... Толькі патлумачце: чаму завязана калена, калі баліць галава?

Не сцярпеўшы, хворы рэзка ўстае, падскоквае да доктара, ледзь не за грудкі яго хапае, крычыць:

— Я зразумеў усё! Чаму на калене павязка? Бо спаўзла! Да размовы з табой была на галаве. Ад тваёй дурнаты раптам спаўзла на калена. Не трэба мне тваіх ні лекаў, ні лістка. Я пайду ў рэгістратуру і папрашу, каб да цябе тэрмінова выклікалі брыгаду. Цябе трэба лячыць. І пазбавіць хворых ад візітаў да такога лекара.

І амаль подбегам пацыент кінуўся з кабінета.

**Падслухала**
**Ірына Якаўлеўна КАРМАНОЎСКАЯ.**



ПАМЯТЬ

# Учитель от Бога

*Закончила свой земной путь заслуженный учитель Беларуси, Человек с большой буквы **Елена Григорьевна Колосовская**. Она прожила 105 лет.*



Родилась Елена Григорьевна в 1908 году в местечке Белыничи Могилевской области (тогда — Могилевской губернии). В семье было семь детей, выросли пять.

Мама — Евгения Корунная (Аўгіння Карунная) — была грамотная, умела читать. Двое братьев Елены Григорьевны — Леша и Вася — погибли во время войны. Леша — на фронте, Вася — от голода в блокадном Ленинграде.

Сама Елена Григорьевна начинала учиться в школе еще до революции. Уговорила маму отдать ее в школу в шесть лет, до этого она еще от старшего брата научилась читать. Первой учительницей Елены Григорьевны была дочь священника, человек творческий, инициативный, о ней Колосовская вспоминала с любовью.

После школы Елена Григорьевна поступила в Могилевский педтехникум, 50 километров шла пешком из Белыничей, чтобы подать документы. Период учебы в педтехникуме запомнился Елене Григорьевне как очень радостный, яркий.

В 1930 году, в 22 года, вышла замуж за Максима Васильевича Макаревича, молодого преподавателя техникума, который влюбился в юную красавицу. Прожили вместе всю жизнь.

После педтехникума была учеба в Московском педагогическом институте, рождение сына и дочери.

Внезапно — начало войны. Муж — замнаркома просвещения — имел бронь, но сразу же ушел на фронт добровольцем. Их дом в Минске разбомбили во время первого же налета. К счастью, Елена Григорьевна с детьми была не в Минске, поэтому тогда все остались живы. Но именно поэтому практически не сохранилось фотографий довоенного времени.

По дороге в Казахстан, в эвакуацию, от дифтерии умерла шестилетняя дочка Инночка. С 10-летним сыном Лёником Елена Григорьевна добралась до Казахстана, там работала в школе. Вернулась в Минск, как только город освободили в 1944 году. Голод был после войны страшный, но надо было найти жилье, работу. Устроилась на работу во 2-ю школу города Минска, здание которой уцелело, потому что в ней размещался немецкий госпиталь.

До начала уроков детям выдавали по маленькому кусочку хлеба, чтобы не падали на уроках в голодный обморок. Сама Елена Григорьевна в 1944 году приносила в школу еду учителям, у которых еще не было постоянного жилища, помогала семьям своих учеников.

В сентябре 1946 года семью Елены Григорьевны настигла очередная беда: 15-летний сын, ученик 9-го класса, ушел в школу и не вернулся. Отец поседел от горя. До сих пор никто не знает, что с ним случилось.

Елена Григорьевна все силы отдавала школе. За ее плечами 40 лет педагогической деятельности. Опыт ее жизни впитал все тревоги и трудности времени: изначальную бедность большой семьи, уроки коллективизации, непростой путь к образованию, работа в разных образовательных учреждениях, постоянное стремление к знаниям, войну, потерю двоих детей, смерть любимого мужа. И ни капли обиды, зависти, озлобленности, подозрительной ревности. На все в жизни — добрая отзывчивость.

## О Елене Григорьевне ее бывшие ученики

**И.Е.Макарчук (выпуск 1946 года):**

— Елена Григорьевна была и остается моим Учителем, нас прочно связывают 60 лет жизни. Я пришла к ней в 9-й класс в 1944 году, потом стала ее коллегой, мы работали вместе 22 года. Это один из самых добрых и замечательных людей в моей жизни. В ее честь мы с мужем назвали нашу дочь Еленой. Эта удивительная во всех отношениях женщина несла в себе огромную позитивную энергию, она всегда была открыта для людей, готова прийти на помощь, отдать все, что возможно. Она несла в себе животворящее начало Любви. Именно к ней применимы слова Некрасова, сказанные о Добролюбове:

*Природа-мать, когда б таких людей*
*Ты иногда не посылала миру,*
*Заглохла б нива жизни.*

**Р.Гамзович (выпуск 1965 года):**

— Елену Григорьевну Колосовскую, заслуженного учителя Беларуси, знаю с детства: она была завучем СШ №2 г.Минска, где я училась. Жизнь Елены Григорьевны — целая эпоха, она в какой-то мере отражает и историю образования в нашей стране, и историю Минска, и, само собой, — историю нашей школы, одной из старейших в столице.

**Валерия Спесивцева (выпуск 1956 года):**

— Елена Григорьевна Колосовская преподавала у нас русский язык и литературу. Теперь, с высоты прожитых лет, я понимаю, что Елена Григорьевна была Учителем от Бога. Ее яркий ум и память, ее доброжелательность и заинтересованность, ее мудрость и отзывчивость, ее стойкость в непростых жизненных ситуациях у меня вызывают чувство восхищения и благодарности судьбе за то, что свела меня с таким человеком.

**Н.Кузьменок (Василевич) (выпуск 1956 года):**

— Особенно яркий след в моей жизни оставила наш классный руководитель, учитель русского языка и литературы Елена Григорьевна Колосовская.

Мы были ее детьми, согретыми пониманием, чуткостью и справедливостью. Елена Григорьевна — светлый и талантливый человек.

В класс входила высокая, стройная, красивая женщина, строго и со вкусом одетая, и сразу от дверей, чуть грассируя, начинала урок. Какими же интересными и увлекательными были эти уроки! Я переносилась в другой мир, жила жизнью литературных героев.

Школа оставила глубокий след в моей жизни потому, что рядом в юности был такой человек, талантливый педагог, как Елена Григорьевна.

В современной жизни, это очень печально, уменьшается количество воспитанных, чутких и бескорыстных людей; может быть, поэтому меняется отношение к школе, все реже школа дарит ученикам чувство "родного дома". Но ведь так важно кроме серьезных и глубоких знаний получить еще уроки внимания, добра и благородства, чтобы, выходя в большую жизнь, школьники имели нравственный багаж, стремление быть личностью. А для этого рядом должны находиться неравнодушные, благородные наставники, любящие свой труд и детей. Такой была Елена Григорьевна — светлый и мудрый человек.

**Елена Степанова (выпуск 1952 года):**

— Для меня главным уроком был урок русской литературы, который вела Елена Григорьевна Колосовская. Когда она входила в класс, всегда элегантная, стройная, скромно и со вкусом одетая, для меня начинался праздник, радость наполняла сердце. Уже тогда я видела в ней настоящего друга, человека с сердцем, преданным делу и нам.

Теперь, спустя много лет, могу с уверенностью сказать, что выбор моей профессии был связан с образом Елены Григорьевны — я стала преподавателем русского языка и литературы. Елена Григорьевна по воле судьбы стала надежным другом и советником и в радости, и в горе на всю жизнь.

**Г.Молочко, племянница Елены Григорьевны (выпуск СШ №2 1957 года):**

— Мы прожили вместе, в одной квартире, 23 года. Меня восхищало в тете Лене ее трудолюбие, всеобъемлющая доброта, желание помочь в трудную минуту любому, кто в этом нуждается, обостренное чувство справедливости, активная жизненная позиция. "Народная Воля" была ее любимой газетой. Пока позволяло зрение, она читала ее сама в день выхода, позднее просила делать это членов семьи. Бесконечно любила детей, в свои 100 с лишним лет играла с ними в школу, учила читать, рисовать, шить, вязать (сама всю жизнь была замечательной рукодельницей).

Дорогая Елена Григорьевна!

Спасибо, что Вы были в нашей жизни, дарили счастливые годы взаимного общения, любовь к книгам, искусству, музыке. Каждый раз, когда мы проходим мимо нашей любимой школы на улице Энгельса (к сожалению, в этом здании уже другое учреждение), мы рассказываем внукам о годах, проведенных в ее стенах.

Если есть возможность, очень просим через газету "Народная Воля" сказать большое спасибо всем, кто пришел проститься с Еленой Григорьевной Колосовской и сказать или написать хорошие слова о ней.

**Родные и близкие, товарищи Е.Г.Колосовской.**



С сыном Леником. 1934 г.



С коллегами и учениками (2-й ряд, 2-я справа). 1946 г.

«ЕЎРАБАЧАННЕ-2014»

## Беларус спяе 8 мая

*Прадстаўнік Беларусі на конкурсе песні "Еўрабачанне-2014" спявак Тэа (Юрый Вашчук) выступіць у другой частцы другога паўфіналу, які адбудзецца ў сталіцы Даніі— Капенгагене 8 мая.*

У першым паўфінале выступаюць і галасуюць Швецыя, Албанія, Ісландыя, Расія, Латвія, Азербайджан, Арменія, Эстонія, Бельгія, Венгрыя, Малдова, Чарнагорыя, Сан-Марына, Партугалія, Украіна і Нідэрланды.

У другім паўфінале разам з прадстаўніком Беларусі на сцэну выйдуць канкурсанты з Нарвегіі, Ізраіля, Грузіі, Аўстрыі, Літвы, Польшчы, Мальты, Македоніі, Фінляндыі, Ірландыі, Румыніі, Славеніі, Грэцыі і Швейцарыі.

Краіны "вялікай пяцёркі" — Італія, Іспанія, Германія, Францыя, Вялікабрытанія — і арганізатар конкурсу гэтага года Данія аўтаматычна трапляюць у фінал 10 мая, аднак яны таксама транслююць паўфіналы і галасуюць за іх удзельнікаў. Іспанія, Францыя і Данія будуць ацэньваць канкурсантаў першага паўфіналу, а Германія, Італія і Вялікабрытанія — другога.

Усяго сёлета ў конкурсе возьмуць удзел 37 краін. У першым паўфінале 6 мая выступяць 16 краін, у другім 8 мая — 15.

АФІЦЫЙНА

## Праезд у Мінску каштуе 7 тысяч

*Сёння мінскі наземны транспарт акупляецца на 35%, метро — на 45%. Пра гэта паведаміла намесніца генеральнага дырэктара дзяржаўнага прадпрыемства "Мінсктранс" **Ірына Якубоўская.***

*"Адна паездка ў грамадскім транспарце Мінска каштуе сем тысяч рублёў. Аднак гэта сабекошт. Калі вы жадаеце нейкія тэхнічныя дадаткі, кошт, зразумела, будзе вышэйшы",* — сказала Якубоўская, адказваючы на пытанні журналістаў.

СТАЛІЦА

## Архітэктар Мінска гаворыць словамі Лукашэнкі

Са студзеня старшынёй камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама стаў **Мікалай Уласюк**. Ужо ў першыя працоўныя тыдні ён агучыў некаторыя прынцыпы далейшай горадабудаўнічай палітыкі: скарачэнне будаўніцтва жылля ў сталіцы і развіццё Мінскай агламерацыі, куды ўвойдуць гарады-спадарожнікі, піша агенцтва "Мінск-Навіны". Іншымі словамі, Мікалай Уласюк кажа пра тое ж, што і кіраўнік краіны.

— Насельніцтва сталіцы набліжаецца да 2 мільёнаў чалавек, — заявіў у інтэрв'ю архітэктар Мінска. — Па шчыльнасці мы ўжо апярэджваем шматлікія буйныя еўрапейскія гарады. Пашырацца сталіцы няма куды, паколькі вакол яе землі сельгаспрызначэння, якія нельга забудоўваць. Таму прапануецца больш актыўна асвойваць гарады-спадарожнікі. Але яны не павінны стаць проста новымі спальнымі раёнамі Мінска, неабходна забяспечыць хаця б 30—40-працэнтную занятасць насельніцтва ў гэтых жа гарадах (каб максімальна пазбегнуць маятнікавай міграцыі). Для гэтага трэба стварыць новыя працоўныя месцы альбо вынесці некаторыя сталічныя функцыі (часткова адміністрацыйныя, адукацыйныя, вытворчыя, турысцкія і інш.). Таму да 2017 года прапануецца ў Мінску будаваць 60 працэнтаў жылля ад гадавога плана, а ў спадарожніках — 40. А пасля 2017 года гэтая прапорцыя павінна быць адпаведна 50 да 50. Да гэтага часу неабходна будзе падвесці транспартную і інжынерную інфраструктуры. Важна паралельна весці і будаўніцтва жылля, і ствараць месцы прыкладання працы, і будаваць сацыяльныя аб'екты. Жыллё ў спадарожніках па якасці жыцця і асяроддзя не павінна саступаць сталічнаму, інакш туды проста ніхто не паедзе. Сёння важна вызначыць, якія населеныя пункты развіваць у першую чаргу.



ДИПКУРЬЕР

## Изменился порядок въезда белорусов в Румынию

С 1 февраля иностранцы, имеющие действующие двукратные или многократные шенгенские визы или разрешение на долгосрочное пребывание в странах шенгенского соглашения, смогут пребывать в Румынии без необходимости получения национальной румынской визы до 90 дней в течение 180 дней.

Продолжительность пребывания не должна превышать определенные в визе сроки.

Граждане Беларуси, обучающиеся в Румынии, обязаны получать национальную румынскую визу.

До 1 февраля иностранцы, имеющие шенгенские или национальные болгарские визы, могут находиться в Румынии не более пяти дней для транзита без необходимости получения румынской транзитной визы.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



*Елена МОЛОЧКО*

## Зачем богатые прилюдно плачут?

Почему-то в бешеном, мутном информационном потоке, возникшем тотчас же после объявления о тяжкой болезни певицы Ж.Фриске, коробит многое, если не все. Почему? Разве молодая красивая женщина не достойна сострадания? О чем речь, конечно, достойна. Разве можно отказать в искреннем сочувствии человеку только на том основании, что он всего лишь раскрученный шоу-бизнесом продукт (и то в прошлом), а не действительный талант, внесший вклад в развитие и так далее?.. Нет, нельзя отказать, перед болезнью все равны.

Но ажиотаж в медиа вокруг недуга артистки, созданный не то что не без помощи, а прямо-таки с участием родных Ж.Фриске, отталкивает... Слишком громко, эпатажно, напоказ. А 50 миллионов российских рублей, собранных вдруг за два-три дня? Да, позвольте, правда ли все это?.. Попахивает профанацией, ей-Богу.

Мне кажется, серьезная болезнь требует иного: сосредоточенности и тишины. Чтобы ее, болезнь, побороть! Золотого молчания. Чтобы осознать, какой силы враг перед тобою, и начать наступать! Недаром в оные времена больные стремились в монастыри: там покой, уход, молитва. А старцы, те уходили и из монастырей — им по силам было смотреть смерти в лицо в полном одиночестве. Но то — духовные великаны. Однако в том и другом случае болезнь уважали, прятали от мира, а не пускали на майдан в виде горячей поголоски.

Сказать, что теперь другие времена, значит, слукавить. Времена всегда одни и те же, суровые, а вот люди в них живут разные. Надеюсь все-таки, что артистке Фриске не передают результаты всенародного обсуждения ее судьбы, хлынувшей изо всех щелей, не рассказывают некоторых деталей "настоящей поддержки". Да и что это такое — настоящая поддержка, в которой нуждается почти приговоренный человек? Конечно, каждый из нас прочувствует это в свое время и на своей собственной шкуре. Но, мне кажется, уж точно не барабанный бой, устроенный теперь коллегами по цеху Жанны во имя ее выздоровления. Хотя бы потому, что нескромно привлекать к себе, единственной, такое повышенное внимание. Потому что в это же время тысячи безвестных, обездоленных больших и малых людей, так же как и Жанна, а может, и больше, отчаянно нуждаются в миллионах. Но даже не помышляют пустить шапку по кругу. И ждут рокового часа в безнадежности. А здесь — эх-ма, за два дня миллион евро. Или просто это профессия артиста (клоуна) обязывает — до последнего вздоха быть публике на потребу?

На самом деле получилось какое-то электоральное вече, демонстрационное громыхание скорбями для привлечения сочувствия по всем возможным информационным каналам. Там выступил гражданский муж. Там сделала заявление подруга. На российском Первом телегуру Малахов крутанул рейтингом. А на НТВ отец Ж.Фриске записал обращение... Муж просит не тревожить их семью, дать возможность "сосредоточиться на единственном и главном", а папа раскручивает "новость" по всем правилам шоу-биза. И вот вам эффект... Хотя, на мой взгляд, прямо противоположный ожидаемому. Даже с учетом собранных средств.

Потому что, во-первых, многие стали задаваться обоснованным вопросом: "Зачем богатые прилюдно плачут о безденежье? У них совесть есть?" И правда, зачем? Наверное, затем, что даже на своей болезни хотят и могут (!) заработать денег. Хотя, по версии Forbes, за один только 2012 год у Жанны Фриске было 1,5 миллиона долларов. Но не продавать же, как пишут в интернете, дом в Майами, в самом деле.

Другие стали спрашивать, хоть и наивно, но вполне себе по-христиански: "Чем простые люди хуже знаменитых?" Боюсь, что истинный ответ, если они, праведные, еще не поняли, сразит их грубой ясностью: "Всем!" Что дозволено Юпитеру, не дозволено быку. А проще говоря, двойные стандарты правят в мире. Это — новость? Нет, конечно. Но разве настоящий народный кумир имеет на это высокомерие право?

Третьи, естественно, стали давать патетические отповеди первым и вторым, чтобы они не считали чужие деньги. Четвертые, стремясь зрить в корень, говорили, что весь этот разнузданный пиар из-за гадов-телевизионщиков... Что говорить, знатная произошла в сети заварушка.

И пахнет она, возвращаясь к началу моих заметок, дурно. Потому что шумиха любой степени вокруг настоящей беды — это кривляние. Мало того что бестактна. Она опасна. И для общества, которое теряет элементарное чутье на мораль, на представление о настоящем милосердии, и для страждущей Жанны. Ведь внимание толпы артистку не лечит. Это иллюзия. Толпа рукоплещет, одобряет, волнуется, по-своему даже любит — но всегда, в обязательном порядке, толпа своим кумиром питается. Это, если уж совсем подводить итоги. Держись, Жанна!

ДЫСКУСІЯ

# Што рабіць з помнікамі Леніну?

*Разбурэнне помнікаў Леніну ў шэрагу гарадоў Украіны, якое ўжо ахрысцілі адмысловай назвай "ленінапад", выклікала дыскусіі ў беларускіх медыях, сацыяльных сетках ды на інтэрнэт-форумах. То не дзіўна — у нас гэтых помнікаў панаторкана больш, чым ва Украіне. Што з імі ўрэшце рабіць?*

Сустаршыня аргкамітэта "Беларускага руху" **Вінцук ВЯЧОРКА**, які напрыканцы 1980-х стаяў ля вытокаў БНФ "першага склікання", лічыць цалкам беспадстаўнай пазіцыю чыноўнікаў, якія спрабуюць апраўдаць знаходжанне гэтых помнікаў на плошчах іх гістарычнай ці мастацкай каштоўнасцю. Вячорка праводзіць паралель: ці пакінулі б помнікі Гітлеру, нават калі б іх ляпілі або высякалі геніяльныя скульптары, у гарадах Нямеччыны? Ён упэўнены, што для помніка, які стаіць не ў музеі ці яшчэ якім адпаведным месцы, а ў горадзе, змест важнейшы за мастацкія якасці.

*— Не кажу, што трэба браць кувалду ды разбіваць іх. Варта найбольш прыкметных ленiных сабраць недзе ў адным месцы, за гарадской рысаю, як гэта зрабілі ў Літве. Аднак лічу абсалютна непрымальным, каб помнікі Леніну стаялі ў знакавых месцах, на плошчах і вуліцах нашых гарадоў. Ленінізм, камуністычная ідэалогія і практыка вартыя яснага асуджэння, а не помнікаў на цэнтральных вуліцах. Гэта зыходзячы і з агульначалавечых каштоўнасцяў — маралі, культуры, гуманнасці, — і з беларускіх нацыянальных. Ленін спрычыніўся да пазбаўлення нас шанцу стаць незалежнай краінай, да падзелу па-жывому тэрыторыі Беларусі. І я б тут не казаў пра часовую беларусізацыю: з боку ленінцаў на той момант гэта была проста змушаная саступка. То бок, з пункту гледжання і чалавечнасці, і беларускай незалежнасці гэтыя стодзівы не павінны знаходзіцца на плошчах нашай краіны.*

Актывіст Партыі левых "Справядлівы свет" і грамадзянскай кампаніі "Наш дом" **Мікалай ПЕТРУШЭНКА**, былы палітработнік у званні палкоўніка, перакананы камуніст па поглядах, натуральна, мяркуе інакш:

*— З майго пункту гледжання, украінскім "рэвалюцыянерам" было б больш карысці не бурыць помнікі Леніну, а вучыцца ў Леніна. Ленін пісаў: "Пераход да абароны — гэта смяротна небяспечна для рэвалюцыі". А яны барыкады будуюць... І беларусам, якія збіраюцца зрынуць Лукашэнку, трэба рабіць высновы і не паўтараць украінскія "подзвігі" па разбурэнні помнікаў Леніну, а заваёўваць давер народа. Руйнаванне помнікаў гэтаму спрыяць ніяк не будзе, наадварот, моцна пашкодзіць. У 1917 годзе бальшавікі перамаглі таму, што за імі пайшлі масы. Насуперак волі мас нічога не атрымаецца. А Ленін распачаў справу — і давёў яе да лагічнага канца. Леніна трэба ўшаноўваць!*

Сябра міжнароднага таварыства "Мемарыял" **Ігар КУЗНЯЦОЎ**, гісторык, які даўно і актыўна займаецца тэмай сталінскіх рэпрэсій і расстрэлаў у Курапатах, адзначае, што ў Беларусі, як нідзе ў постсавецкіх дзяржавах, улада культывуе савецкую мінуўшчыну, і ў гэтым плане сітуацыя непараўнальная з украінскай: грамадства не гатова да рэзкіх зрухаў.

*— Я не прыхільнік таго, каб адразу прыбіраць усе* помнікі, — гаворыць Кузняцоў. *— Гэта рабіць, безумоўна, трэба — але не рэвалюцыйным, а эвалюцыйным шляхам. Патрэбны падручнікі па гісторыі, у якіх будзе выкладацца аб'ектыўны погляд на Леніна і яго паплечнікаў, паказвацца злавесны характар гэтых асоб, іх адказнасць за грамадзянскую вайну, тэрор, рэпрэсіі. Толькі пасля можна будзе сабраць гэныя помнікі ў нейкім запаведніку, прыкладна як у Літве... Але, канешне, нічога такога не будзе за цяперашняй уладай, якая, наадварот, актыўна адраджае савецкую сістэму: гэта адбіваецца і ў выданнях адпаведнай літаратуры, і ў назвах вуліц, якія амаль не змянялі з савецкіх часоў; пабудавана "лінія Сталіна"; нават назоў "Плошча Леніна" і той для станцыі метро вярнулі, хоць сама плошча называецца інакш...*

**Сяргей ХАНЖАНКОЎ**, дысідэнт і антысаветчык, які быў асуджаны яшчэ ў 1963 годзе за намер у складзе невялічкай падпольнай групкі падарваць радыёглушыльную вежу ў Мінску і 10 гадоў адседзеў у мардоўскіх лагерах "ад званка да званка", характарызуе сітуацыю ў медыцынскай тэрміналогіі:

*— Гэта запушчаная хвароба. І помнікі Леніну — толькі яе сімптомы, насамрэч яна глыбей. Мы да гэтай пары не асудзілі камуністычную мінуўшчыну — а пасля крок за крокам пайшла адваротная хада: у бок спроб апраўдаць савецкую сістэму. Усе нашы наступныя наслаенні — аўтарытарызм, палітычныя рэпрэсіі, збіццё мірных дэманстрантаў, паблажлівае стаўленне грамадства да гэткіх з'яў — маюць вытокам той факт, што мы дагэтуль не разабраліся ні з камунізмам, ні з Леніным. Пасля змены ўлады неабходна праводзіць трыбунал, асудзіць камунізм і назваць вінаватых у злачынствах, жывыя яны альбо не. Даць канкрэтную ацэнку, расставіць усе кропкі над "і". А помнікі Леніну ды яго саўдзельнікам, канешне, зняць — і чым хутчэй, тым лепей.*

**Андрэй КЛІМАЎ** быў вядомым бізнесоўцам, дэпутатам Вярхоўнага Савета апошняга яго складу — і адным з першых палітвязняў у суверэннай Рэспубліцы Беларусь (увогуле быў зняволены тройчы). Да помнікаў Леніну ён ставіцца лаяльна і праблемы ў іх наяўнасці не бачыць:

*— Пасля таго, што я перажыў, я больш думаю пра людзей, чым пра помнікі. Пра нашу краіну: што з ёю будзе, якім шляхам яна пойдзе пасля змены ўлады (упэўнены, што гэта адбудзецца ў хуткім часе). А помнікі Леніну — ну ставілі іх у свой час камуністы ў гонар іхняй перамогі над Расійскай імперыяй. Няхай сабе стаяць, нікому яны не перашкаджаюць. Мяне, прынамсі, помнікі Леніну хвалююць менш за ўсё.*

Грамадскі актывіст **Юрый ВАРОНЕЖЦАЎ** падчас жнівеньскага путчу 1991 года быў удзельнікам абароны "Белого дома" і зносу помніка Дзяржынскаму ў Маскве. Пасля гэтых падзей некалькі месяцаў да скону СССР ён быў намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета Саюза ССР.

*— Вуліцы нашых гарадоў трэба ачысціць ад помнікаў не толькі Леніну, але і Дзяржынскаму, Калініну ды іншым адыёзным асобам, чыя роля ў гісторыі — негатыўная. Але не гэтак, як ва Украіне. Па сутнасці там было зроблена правільна, але ж па форме — агідна. Як дэмантавалі Дзяржынскага на Лубянцы: падагналі грузавік, пад'ёмны кран, акуратна знялі. Далей зрабіць з гэтых статуяў парк, як "Grutos Parkas" пад Друскенінкаем. І вадзіць туды моладзь на экскурсіі глядзець на гэтых ліхадзеяў, каб ведалі нашу трагічную гісторыю.*

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ.**

# За волю!

*(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)*

У бітвах з расійскім войскам загінула каля 6000 паўстанцаў, 733 былі паранены, захоплены ў палон 1361 чалавек, пакараны смерцю 128 чалавек. Ад пачатку паўстання да 1 студзеня 1865 г. з Паўночна-Заходняга краю і Польшчы былі высланы ў Расію на катаргу і пасяленне каля 21 тыс. чалавек, цэлымі вёскамі сасланы больш за 5 тысяч жыхароў. Многія з іх так і засталіся ў тых месцах. Удзельнікі паўстання ўвасаблялі найбольш актыўную, нацыянальна свядомую частку насельніцтва, якая змагалася за волю і незалежнасць.

Гэты выбух народнага незадаволення быў ужо трэцім за апошнія 70 гадоў. Як папярэднія два, і гэтае паўстанне не прынесла волі і пазбаўлення ад расійскага панавання, якое "нас абдзірае і глуміць" ("Мужыцкая праўда", №3). Але царскі ўрад вымушаны быў пайсці на пэўныя саступкі, каб не дапусціць народнага выбуху. Для жыхароў Гродзеншчыны, як і іншых частак Паўночна-Заходняга краю (чытай: Беларусі), урадам былі скарочаны выкупныя плацяжы за зямлю на 20%; адменены дзевяцігадовы часоваабавязаны стан, які прадугледжваўся Палажэннем ад 19 лютага 1861 г., і запатрабавана ў двухгадовы тэрмін канчаткова падпісаць устаўныя граматы па рэгуляванні адносін з памешчыкамі, прымаць якія раней сяляне адмаўляліся; ствараліся паверачныя камісіі для праверкі складзеных устаўных грамат, і яны атрымалі права надзяляць батракоў і беззямельных сялян надзеламі ў 3 дзесяціны з панскага поля. Адзначаныя меры ў некаторай ступені палепшылі становішча былых прыгонных, але былі прыняты царскай уладай, зразумела, не з-за клопатаў аб іх дабрабыце, а з мэтай адарваць іх ад падтрымкі паўстання. Статыстычныя звесткі аб арыштаваных за ўдзел і падтрымку паўстання сведчаць аб значным удзеле сялян у ім. Так, у лістападзе 1863 г. з 180 чалавек, якія ўтрымліваліся ў Гродзенскай турме, сялян было 54 чал. (30%), у снежні 1863 г. з 142 чалавек сялян — 65 чал. (звыш 45%). Але пераважная частка сялян, асабліва праваслаўных, падтрымлівала дзеянні ўрада, была ўдзячная цару-вызваліцелю за дараваную волю, што ўсімі мерамі прапагандавалі ўлады. Таму па даручэнні генерал-губернатара М.Мураўёва ваенны начальнік Гродзенскага павета палкоўнік Брант аб'яўляў падзяку "за похвальные действия и усердие" сялянскім абшчынам, якія найбольш вызначыліся ў пошуку і лоўлі паўстанцаў.

У шматэтнічным, шматканфесійным краі расійская ўлада сеяла нянавісць, варажнечу, супрацьстаянне паміж мясцовым праваслаўным (рускім — па сцвярджэнні ўлады) сялянствам і мясцовай каталіцкай шляхтай (польскай — па словах улады). Мясцовыя ўлады (павятовыя, валасныя) чыталі ва ўсіх сельскіх абшчынах прадпісанне генерал-губернатара, *"чтобы не допускали они со стороны крамольной шляхты вероломных поступков",* сачылі за ёю, арандатарамі, аканомамі маёнткаў, аднадворцамі, лавілі іх і аддавалі ваенным начальнікам, выносілі прыгавор аб ненадзейнасці; землі ўсіх, хто далучыўся да "мяцежных шаек", прадпісвалася перадаваць сялянскім абшчынам.

Ведучы барацьбу з няскораным насельніцвам (шматлікай шляхтай, памешчыкамі, аднадворцамі, мяшчанамі і інш.), расійская ўлада імкнулася знішчыць эканамічную аснову яго незалежнасці — адабраць зямлю і іншую маёмасць і перадаць іх у рукі асобам рускага паходжання або праваслаўнай веры, дазвалялася і лютаранам. З гэтай мэтай на аснове царскага ўказа ад 5 сакавіка 1864 г. пры генерал-губернатары была ўтворана асобая *"Канцелярия по водворению русских землевладельцев в Северо-Западном крае,"* праз якую праходзілі ўсе аперацыі па набыцці зямель, маёнткаў, нерухомасці ў гарадах асобамі рускага паходжання і праваслаўнага веравызнання. У першую чаргу падлягалі продажу канфіскаваныя маёнткі і маёмасць удзельнікаў паўстання або тых, хто падтрымаў яго, і належала іх прадаць на працягу двух гадоў — да 10 снежня 1867 года. У Гродзенскім павеце былі прададзены канфіскаваныя маёнткі:

1.Азёры графа Леапольда Валіцкага, 9140 дзес., за аказанне рознабаковай дапамогі паўстанцам — прададзены графу Левашову. У 1867 г. багатая бібліятэка графа Валіцкага, якая складалася з 2850 асобнікаў кніг, рукапісаў, старажытных грамат і ляжала звваленай у хляве, перададзена Віленскай вучэбнай акрузе. Сам уладальнік маёнтка высланы ў найбольш аддаленыя месцы Сібіры.

2.Корчыкі Уладыслава Жукоўскага, 1/10 частка з 316 дзес. — свяшчэнніку Рыгору Пранеўскаму ў 1885 годзе.

3.Астапкоўшчына Рудольфа Мантовіча, 141 дзес. — чыноўніку Гродзенскага губернскага праўлення Аляксандру Нікуліну.

4.Губінка Севярына Ромера, 170 дзес. і

5.Мігова Аляксандра Абуховіча 480 дзес. — жонцы генерал-лейтэнанта рускай арміі Паўла Брасэ — Кацярыне Брасэ ў 1867 годзе.

6.Навасёлкі Уладыслава Спірыдовіча, 703 дзес. — калежскаму саветніку Яўграфу Курлову ў 1868 годзе.

7.Ласосна Канстанціна Сапоцькі, 294 дзес. — калежскаму саветніку Афанасію Ліцвінаву ў 1864 годзе.

8.Закрэўшчына і Струпін Міхаіла Юроўскага, 328 дзес. — генерал-маёру рускай арміі Фёдару Фішару ў 1870 годзе.

9.Жыдомля — генерал-маёру Пятру Дзяконскаму ў 1868 годзе..

10.Масты — княгіні Кацярыне Урусавай у 1868 годзе.

11.Дзямідкава — калежскаму саветніку Міхаілу Тафрасу.

Былі канфіскаваны долі нераздзеленых маёнткаў, яны часова знаходзіліся ва ўпраўленні палаты дзяржаўных маёмасцяў. Яны маглі быць прададзены пры выдзяленні іх у асобнае ўладанне або пры пераходзе ў спадчыну. Канфіскаваны долі і не прададзены:

1.Гожа і Пералом — 1/2 частка, Станіслава Сільвястровіча,

2.Заблаць і Русота — 11/28 частка, Пятра Пакубяты,

3.Міневічы — 11/14 частка, Івана Каменскага,

4.Панюкі — 1/2 доля, Аляксандра Лянкевіча,

5.Ласосна і Волкуш — 1/6 доля, Льва Астрамецкага,

6.Мішкенікі — 1/3 частка, Антона Яваро́ўскага,

7.Ласосна — 1/3 частка, Івана Сержпутоўскага,

8.Шымакі — 1/3 частка, Юльяна Тржацяка,

9.Верцялішкі, Скрабляки Аляксандра Біспінга — канфіскавана поўнасцю,

10.Вярэйкі Станіслава Солтана — канфіскавана поўнасцю,

11.Карасоўшчына Аляксандра Эйсманта — канфіскавана поўнасцю,

12.Марцынкоўшчына Фелікса Белакоза — канфіскавана поўнасцю.

Землі і нерухомая маёмасць дробнай шляхты, аднадворцаў, мяшчан, якія падтрымалі паўстанне, таксама канфіскоўваліся на карысць дзяржавы для продажу надзейнаму рускаму праваслаўнаму насельніцтву — перасяленцам з Расіі, а іх былых уладальнікаў высялялі ўглыб імперыі або на катаргу.

Эканамічны ціск на маёмасныя саслоўі выражаўся і ў пасылцы воінскіх каманд для пастою ў ненадзейных вёсках, шляхецкіх ваколіцах, маёнтках і ў накладанні штрафаў на ўсіх жыхароў вёсак, мястэчак, маёнткаў, якія хавалі ад улад перамяшчэнні "мяцежнікаў"; ва ўвядзенні кантрыбуцыйных збораў у памеры ад 1,5% да 8,5 % ад гадавога прыбытку. Такія зборы былі ўведзены з пачаткам паўстання на памешчыкаў, якія падтрымалі яго, а з 1865 г. — на ўсіх памешчыкаў, шляхту, аднадворцаў, домаўладальнікаў у гарадах каталіцкага веравызнання. У Гродзенскім павеце яго наклалі на 773 асобы, у тым ліку 149 памешчыкаў і 624 — дробнай шляхты і аднадворцаў. Па павеце за перыяд з 1863-га па 1 лістапада 1865 г. спагнана рознага роду кантрыбуцыйных збораў 135.447 руб. 28 капеек. Напрыклад, з маёнтка Мількаўшчына Элізы Ажэшка ён склаў у 1865 г. 324 руб. 80 кап., у 1866 г. — 552 руб. 16 капеек. (Даволі вялікія грошы; да прыкладу, 1 чвэрць — 102 кг — жыта, ячменю, гароху каштавалі 2 руб., бульбы — 75 капеек).

Кантрыбуцыйныя зборы выкарыстоўваліся для ўзнагароджання сельскіх *"каравулаў"* за вылоўліванне "мяцежнікаў", для выплаты тым сем'ям, што пацярпелі ад паўстанцаў за службу карнікам. Але найбольш — для павелічэння, згодна з царскім указам ад 5 сакавіка 1864 г., на 50% жалавання рускім чыноўнікам, *"состоящим ныне на службе в Северо-Западном крае и поступающим на оную, и о выдаче сим последним при отправлении их на службу в Западные губернии прогонных и падъемных денег".* Гэтая 50-працэнтная прыманка падштурхнула сотні дробных і буйных клеркаў з цэнтральнай Расіі *"на ловлю счастья и чинов"* у Беларусь. Нават 35 выпускнікоў Уладзімірскай семінарыі рушылі ў ліпені 1864 г. на Гродзеншчыну на пасады валасных пісараў. Так рэалізоўвалася заява М.Мураўёва пасля падаўлення паўстання: чаго не зрабіў тут рускі штык, давершыць рускі чыноўнік, праваслаўная царква і рускі настаўнік.

Надзвычай сур'ёзным наступствам паражэння паўстання з'явілася татальная русіфікацыя краю, якая датычылася беларусаў і палякаў, праваслаўных і католікаў і якая працягваецца і ў нашы дні. Узмацненне гэтай палітыкі дакладна выказаў цару Аляксандру ІІ генерал-губернатар М.М.Мураўёў у сваіх *"Записках по устройству Северо-Западного края".* Нельга абысці гэтыя дакументы з-за іх актуальнага гучання і сёння. У "Записке" ад 14 мая 1864 г. ён пісаў:

*"Для утверждения Русского владычества в Северо-Западном крае необходимо:*

*1. Упрочить и возвысить Русскую народность и Православие так, чтобы не было и малейшего повода опасаться, что край может когда-либо сделаться Польским. В сих видах в особенности заняться прочным устройством быта крестьян и распространением общественного образования в духе Православия и Русской народности...*

*Осуществить общие административные меры:*

*1. Подтвердить окончательно о повсеместном введении Русского языка ... во всех официальных и служебных сношениях, а также и в наружных изображениях всякого рода.*

*2. Немедленно все высшие служебные должности по всем ведомствам, а также все места, имеющие прикосновение с народом, заместить Русскими чиновниками.*

*3. Заселять край Русскими сколько возможно сосредоточеннее... "*

Праблемы *"упрочения в крае нашего владычества"* працягвалі турбаваць М.Мураўёва ўсе гады яго знаходжання ў Вільні. Ужо незадоўга да сваёй адстаўкі з пасады генерал-губернатара 5 красавіка 1865 г. ён дапоўніў свае прапановы па поўнай русіфікацыі краю:

*"2. Не отменять установленного 5%-ного сбора... надобно, как говорят, бить по карману...*

*3.Не возвращать еще долгое время высланных из Северо-Западного края за политические преступления...*

*7. Утверждение Православия в крае есть одна из самых необходимых основных мер...*

*10. Умножить везде русские школы ...*

*12. Стараться правильным преподаванием истории уничтожить превратное и враждебное нам направление, распространенное бывшими Польскими школами. Надобно всем и постоянно разъяснять, что край Северо-Западный всегда был и есть Русский..."*

У нешматлікіх гімназіях, павятовых і народных вучылішчах забаранялася размаўляць па-беларуску, а выкладанне польскай мовы 7 ліпеня 1864 г. было забаронена ва ўсіх навучальных установах — і дзяржаўных, і прыватных. Прыватныя польскія школы, што існавалі да паўстання, забараняліся, а іх стваральнікаў і настаўнікаў прыцягвалі да крымінальнай адказнасці. Так, напрыклад, адбылося і ў вёсцы Грандзічы ў 1873 годзе. Гродзенскі павятовы спраўнік далажыў губернатару, што шэсць мяшчан вёскі незаконна адкрылі тайную хатнюю школу, дзе навучаў дзяцей польскай грамаце Вікенцій Кушалеўскі. Губернатар распарадзіўся накіраваць справу ў суд для пакарання настаўніка штрафам і пазбаўлення права займаць настаўніцкую пасаду.

Пасля падаўлення паўстання ў 70-я гады XIX ст. улады пайшлі на адкрыццё навучальных устаноў розных ступеняў, асабліва для падатных саслоўяў — прыходскіх вучылішчаў і школ граматы пры цэрквах, народных вучылішчаў Міністэрства народнай асветы. Працавалі ў іх рускія настаўнікі па рускіх праграмах і падручніках пад пастаянным наглядам праваслаўных святароў. Папячыцель Віленскай вучэбнай акругі А.П.Шырынскі-Шыхматаў яшчэ ў 1864 г. пісаў у цыркуляры "Некалькі ўказанняў у дапаўненне да інструкцыі для народных настаўнікаў", што галоўная мэта народных вучылішчаў не толькі ў тым, каб навучыць дзяцей рускай граматыцы, але і ў тым, каб *"развіць іх разумова і маральна, абудзіць і замацаваць у іх пачуццё адданасці праваслаўнай веры і рускай народнасці".*

Знаёмства з "запаветамі" душыцеля паўстання М.Мураўёва сведчыць, наколькі актуальнымі з'яўляюцца і на пачатку XXI ст. мэты і ідэі паўстання. І ў апошнія дні перад пакараннем гэтыя ідэі не пакідалі кіраўніка паўстання Кастуся Каліноўскага, які хацеў бачыць беларускі народ вольным і шчаслівым:

*Бывай здаровы,*
*мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасці,*
*жыві ў свабодзе.*

*(Працяг у наступным нумары.)*

ЭЎРЫКА!

*Напярэдадні Дня беларускай навукі Нацыянальная акадэмія навук Беларусі склала рэйтынг найлепшых дасягненняў айчынных вучоных у мінулым годзе. Узначальваюць рэйтынг фізікі.*

## Шапка-невідзімка ўжо не фантазія

Па-першае, навукоўцы стварылі новы від гіпербалічных метаматэрыялаў.

У навуцы не часта даводзіцца пераглядаць асновы якой-небудзь дысцыпліны, але зараз менавіта гэта адбываецца ў оптыцы. Прычым менавіта дзякуючы стварэнню метаматэрыялаў.

Метаматэрыялы ў прыродзе не існуюць, гэта выключна рукатворныя аб'екты, якія нагадваюць рыбацкую сетку. За кошт неаднароднасці структуры яны дазваляюць кіраваць самымі рознымі якасцямі святла. Напрыклад, можна прымусіць святло агінаць пэўную частку прасторы — і тады атрымаецца так званая шапка-невідзімка. Акрамя таго, чакаецца, што развіццё гэтай галіны навукі (яе называюць трансфармацыйнай оптыкай) дазволіць стварыць прылады, якія будуць счытваць інфармацыю значна хутчэй, чым сённяшнія камп'ютары.

## Хапацца за сэрца

Беларускія біяфізікі ўпершыню ў свеце расшыфравалі структуру цытахрома альдастэрон сінтазы.

Зразумела, што для звычайнага чалавека навіна патрабуе "перакладу". Але калі не ўдавацца ў глыбіні, то размова ідзе пра вывучэнне ферментаў чалавечага арганізма. У дадзеным выпадку зроблены крок у стварэнні прэпаратаў новага пакалення, якія дазволяць змагацца з павышаным ціскам.

## Наступленне на хваробу Альцгеймера

Айчынныя нейрафізіёлагі сумесна з фізікамі стварылі праграму-мадэль нейроннага ансамбля гіпакампа. Гіпакамп — гэта тая частка мозгу, якая адказвае за памяць. Механізм ягонай працы для медыцынскай навукі застаецца нявывучаным.

Пры пашкоджанні гіпакампа ўзнікае, напрыклад, сіндром Корсакава — захворванне, пры якім чалавек страчвае так званую "кароткую" памяць: помніць даўнія падзеі, але не помніць, што здарылася ўчора і сёння. Змяншэнне аб'ёму гіпакампа даўно з'яўляецца для медыкаў адной з ранніх дыягнастычных прыкмет захворвання Альцгеймера. Такім чынам, вывучэнне таго, як працуе гэтая частка нашага мозгу, дае вялікія магчымасці для лячэння захворванняў, якія сёння лічацца невылечнымі.

## Газ знойдзены?

Беларускія геафізікі ў мінулым годзе скончылі вывучэнне памежнай зоны краін, якіх на палітычнай карце свету не існуе. І гэта не жарт.

Фенаскандыя — гэта для геолагаў фізіка-геаграфічная краіна на паўночным захадзе Еўропы. Волга-Уралія — гэта яшчэ адна геалагічная "краіна", буйны сегмент Усходне-Еўрапейскай платформы. Іх стык — Аршанскую ўпадзіну — і вывучалі айчынныя вучоныя. Поўныя вынікі даследаванняў, дарэчы, не выкладзены ў адкрыты доступ. Аднак вядома, што менавіта Аршанская ўпадзіна — тое самае месца, дзе беларусы шукаюць і нафту, і газ.

## Старое-новае

На святая святых замахнуліся айчынныя эканамісты, даказаўшы, што аб'ёмныя паказчыкі вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі — не тыя паказчыкі, за якімі трэба гнацца. Наўрад ці гэта можна лічыць адкрыццём у сусветнай эканамічнай навуцы, але для Беларусі нават заікацца пра падобнае — смеласць. Напэўна, таму і была адзначана гэтая праца.

Акрамя таго, у лік лепшых трапілі стваральнікі новых гатункаў сельскагаспадарчых культур, у тым ліку — першага айчыннага гатунку проса ДоЖ. А таксама мастацтвазнаўцы, мастакі, гісторыкі — за "адраджэнне тэхналогіі вытворчасці слуцкіх паясоў". Праўда, адмыслоўцы сцвярджаюць, што ўзнагарода заўчасная, паколькі яшчэ ніхто нічога не адрадзіў. Але спробу раскрыць таямніцы нашай мінуўшчыны можна вітаць.

НИЧТО НЕ ЗАБЫТО...

# Юрий Азарёнок вернулся к Шейману

*Еще пять лет назад имя режиссера Юрия Азарёнка было в Беларуси скандально-нарицательным. Автор нашумевших документальных фильмов* ***"Ненависть: дети лжи", "Духовная война"*** *мог без преувеличения считаться главным пропагандистом действующей власти. Какими злыми эпитетами он только не награждал представителей белорусской оппозиции!*

*В последние годы об Азарёнке ничего не было слышно. "Народная Воля" узнала, что сегодня Юрий Азарёнок живет тихой жизнью чиновника, но по-прежнему готов по первому зову вступить на путь идеологических войн.*

## Срок годности «волчьего билета»



Сегодня бывший телевизионщик трудится в отделе информации и общественных связей Управления делами президента Беларуси. По личному признанию, уж и не припомнит, как давно сменил камеру на чиновничий портфель. Хотя еще четыре года назад путь Юрия Азарёнка был весьма далек от политики — режиссер занимался православным телепроектом "Родник души". От дел государственных Азарёнок был отлучен после конфуза на "Евровидении-2008". Скандальный режиссер лишился должности заместителя председателя Национальной государственной телерадиокомпании за **"совершение проступка, несовместимого с нахождением на государственной службе".** "Волчий билет" Азарёнок, возглавлявший белорусскую делегацию на "Евровидении", схлопотал якобы за то, что опоздал на самолет. Мол, сильно расстроился из-за проигрыша нашего исполнителя Руслана Алехно, злоупотребил горячительными напитками и пропустил рейс.

После скандального увольнения из Белтелерадиокомпании об одиозном режиссере почти ничего не было слышно. Между тем сегодня бывший телевизионщик зла на старых коллег не держит. И говорит, что на обиженных воду возят, а он *"сам кого хочешь запряжет"*.

*"Чего вспоминать прошлое?* — смиренно заметил Юрий Владимирович в разговоре с "Народной Волей". — *Разгромили нас на "Евровидении", было определенное расстройство. То, что случилось, произошло не изза болезни или зависимости. Был всего один случай. Да, я попался под горячую руку... Но обид ни на кого не держу — сам виноват".*

## Государев человек

Видимо, ко дню сегодняшнему Юрий Азарёнок полностью искупил свою вину перед бывшими работодателями. Да и старые связи не подкачали. Но искупил ли он вину перед теми, кого не однажды обливал грязью? Стараясь выслужиться перед властью, он зубами вгрызался в ее оппонентов, какими только погаными словами не обзывая. Такое история не забывает и не списывает.

Но те, кому он служил, своих не бросают, каких бы грехов они ни совершили. Сегодня Управление делами президента возглавляет **Виктор Шейман**. И Юрий Азарёнок уже трудится под началом этого одиозного функционера. В бытность Шеймана Генеральным прокурором страны Азарёнок возглавлял его пресс-службу.

Не за горами президентские выборы, время напряженной политической борьбы. Азарёнок признается, что руки так и чешутся пустить в дело все навыки и умения, которые он приобрел за годы сражений на идеологических фронтах. Правда, пока в строй старого солдата пропаганды не зовут. Ни свои, ни чужие.

*"Сотрудничество пока никто не предлагал, хотя я работаю только с одним политиком в нашей республике,* — подчеркнул Юрий. — *Я был и остаюсь преданным Александру Григорьевичу Лукашенко..."*

В 2001 году цикл фильмов "Тайные пружины политики" смотрела и обсуждала вся страна. Юрий Азарёнок и его команда нещадно обличали, уличали, пинали противников режима и политических оппонентов власти. Те платили ему судебными исками.

*"Я думаю, что новые яркие политические фильмы обязательно появятся,* — уверенно заявляет режиссер. — *Причем фильмы совершенно разных направлений. Сегодня интернет-технологии помогают довольно простыми способами делать качественный продукт. Это уже не так дорого. Думаю, и у оппозиции появятся талантливые люди, которые будут работать.*

*Так что все самое интересное в информационной сфере у нас еще впереди. Но, к сожалению, пока ни одна из политических сторон не радовала нас яркими материалами, о которых хотелось бы говорить, спорить, которым хотелось бы возражать".*

## Между адом и раем

Юрий Азарёнок не скрывает, что немного скучает по временам, когда его работы были на острие идеологической машины. Возможно, сегодня режиссер действовал бы более осмотрительно. Хотя того же **Филиппа Киркорова**, с которым у Азарёнка вышла потасовка во время подготовки к "Евровидению-2007", он и сегодня несдержанно называет "*нехорошим, голубым человеком*". Говорит, случилось все тогда, *"потому что он повел Диму Колдуна в гей-клуб, и много чего другого было"*. Да и других противников чиновник прощать не собирается. Вот только не думает о том, простят ли ему нормальные люди те, скажем прямо, оскорбления. При этом Азарёнок говорит, что ни в чем не раскаивается.

*"По характеру я человек прямой и ни в одном из своих рабочих поступков не раскаиваюсь",* — не стал юлить режиссер.

Азарёнок признается, что в последние годы он все-таки стал более сдержанным. Говорит, что вера помогла побороть пагубные привычки, в том числе и пристрастие к спиртному.

*"Вера вообще помогает во всех случаях жизни",* — заметил бывший идеолог.

В целом бывший скандальный гостелевизионщик и теперешний чиновник не прочь порассуждать об актуальных проблемах Беларуси, политике и религии. Вот только предлагают нечасто...

**Мария МАЛЕВИЧ.**

***

***Историки уже подсчитывают перлы печально известного Ю.Азарёнка. Наступит время и им будет дана объективная оценка.***

### Из личного дела

Юрий Азаренок родился 27 февраля 1965 года в д.Рудня Витебской области. В 1994 году окончил БГАИ.

Стал известен после того, как в 1995 году снял документальный фильм "Ненависть: дети лжи", в котором сравнивал белорусскую оппозицию, в частности Белорусский Народный Фронт, с профашистскими коллаборационистами времен Второй мировой войны. Фильм был показан накануне референдума 1995 года, организованного с целью возврата советской государственной символики и отмены статуса белорусского языка как единственного государственного, и вызвал большой негативной резонанс в обществе.

В 1996 году Азарёнок снимает фильм **"Закулиса"** о связи белорусских оппозиционеров с иностранными политическими и финансовыми силами.

В апреле 2006 года Ю.Азарёнку был запрещен въезд в США и страны Евросоюза.

За необъективность, фактически публичное оскорбление **Николай Статкевич** в свое время отвесил Азарёнку пощечину, а **Анатолий Лебедько** пытался с ним судиться.

*— Человек сделал подлость и получил по заслугам,* — рассказывал "Салідарнасці" Николай Статкевич. — *В мае 1995 года, накануне референдума о замене символики и введении второго государственного языка, начинающий режиссер Юрий Азарёнок показал фильм "Ненависть: дети лжи". В нем он использовал запрещенный прием — перебивку кадра: когда кадр с одним человеком тут же сменяется кадром с отрицательными персонажами. Так, сначала в фильме показывали меня, затем танцующих полицаев времен Отечественной войны. Следом Пазьняка, потом опять полицаев и так далее. Поскольку моя семья во время войны пострадала от полицаев, мы восприняли это как оскорбление.*

*Я узнал адрес Азарёнка, вызвал его на лестничную площадку и представился. Он сказал, что знает меня. "Тогда ничего объяснять не надо", — сказал я и дал ему пощечину. Это был разговор двух мужчин...*

### Цитаты из фильма Ю.Азарёнка «Ненависть: дети лжи»:

*"После митинга во Дворце искусства открылась выставка художников-адраджэнцаў. У входа посетители видели чучело президента Республики Беларусь Александра Лукашенко. Но и здесь спадары БНФовцы не были первооткрывателями. Еще во время войны их предшественники возили по Минску чучело того, кого ненавидели и боялись".*

### Из фильма «Духовная война» про Александра Милинкевича и Александра Козулина:

*"Пользуясь методом сравнительного анализа, попробуем проявить черную карту мистической колоды таро и воссоздать основные черты ставленника мировой закулисы, приготовленного для Беларуси. Итак: этот господин должен обладать непомерной жаждой власти и денег. У кого взять деньги? Финансистом практически всех цветных революций выступает известный биржевой спекулянт Джордж Сорос, дружбой с которым гордятся президенты Ющенко и Саакашвили. Наш претендент уже несколько лет связан с фондом Стефана Батория, который является не чем иным, как польским филиалом все того же фонда Сороса. Непременным условием для вождя цветной революции является обучение и стажировка за границей. Где и как учились пламенные революционеры из Грузии и Украины, мы уже рассказали. В нашем случае один из претендентов стажировался в Калифорнийском университете США. И даже закончил курсы обучения высших управленческих кадров в Европейском центре проблем безопасности в Германии. А другой прославился бесконечными вояжами за рубеж по поводу и без повода. За что и получил выговор от министра образования. Важной составляющей его облика должно быть умение в нужный момент предавать людей, которым он клялся в верности и которым многим обязан. Именно так поступили в свое время премьер-министр Украины и министр Грузии. Один из наших претендентов при всяком удобном случае клялся в верности президенту, занимая высокую государственную должность, а нынче, оказавшись не у дел, является одним из самых страстных его критиков. Другой, будучи в течение шести лет заместителем председателя исполкома одного из областных центров, занимался вопросами идеологии. А теперь проповедует совсем другую — западную идеологию. Портрет этих господ может дополнить увлечение мистикой, определенная аморальность и непомерное тщеславие. С огромным удовольствием они становятся почетными гражданами иностранных городов, кавалерами зарубежных орденов, лауреатами премий сомнительных фондов и членами бутафорских академий..."*

СЛЫШАЛИ?

# Под 46,5% годовых

*После долгого перерыва коммерческие банки возобновили выдачу кредитов на строительство жилья. Правда, пока об этом заявил только "Белгазпромбанк".*

"Белгазпромбанк" предлагает так называемое ипотечное кредитование. Это когда обеспечением по займу выступает сам объект недвижимости: вы отдаете его под залог выданных денег.

Банк согласен профинансировать до 70% стоимости жилья. Платежи можно растянуть на 15 лет. С момента получения денег и до предоставления в банк договора об ипотеке вам придется платить 46,5% годовых (СР+23 п.п.). После регистрации всех документов пользование деньгами станет дешевле на один процентный.

Как известно, "Беларусбанк" выдает сегодня кредиты на строительство жилья под 38,5% годовых (СР+15 п.п.) сроком на 15 лет и финансирует до 75% стоимости будущей квартиры.

В "Белагропромбанке" можно рассчитывать на сумму в 90% от цены строительства. Максимальный срок кредитования — 20 лет.

